# КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

№13(89)

10 жніўня 2012 Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь


# КЛИМОВИЧСКИЙ РАЙОН ОПУСКАЕТСЯ В ДЕМОГРАФИЧЕСКУЮ ЯМУ

**Михаил ПЕТРОВ**

***В обозримой перспективе демографический вопрос станет самым актуальным для нашей страны. Симптоматично, что уже принята и действует Национальная программа демографической безопасности. Хочется специально подчеркнуть — БЕЗОПАСНОСТИ, так как положение давно и на самом деле является небезопасным. Белорусы имеют все шансы получить статус вымирающего народа.***

Мрачные прогнозы основаны на многолетних научных исследованиях. По расчётам специалистов количество детей, которое современная белоруска рожает за свою жизнь, находится на недопустимо низком уровне. В масштабах всего общества это лишь 65% необходимого стране «детопроизводства». Поэтому в силу этих и ряда других причин в ближайшие годы население нашей страны будет неуклонно сокращаться.

Также следует исходить из того, что с демографией неразрывно связана экономика. Экономическое развитие обусловлено не одними деньгами и технологиями, но и достаточным количеством работающих людей. Беларусь уже начала ощущать дефицит трудовых ресурсов. Высокая смертность дополняется массовым выездом за пределы страны. И ничто не указывает на то, что положение может измениться.

В свете вышесказанного Климовичский район выступает убедительным примером, подтверждающим сделанные выводы. Демографическая ситуация в районе ухудшается с каждым годом, что негативно влияет на его социально-экономический потенциал. А ведь относительно недавно Климовичи считались наиболее перспективным городом в этом регионе.

Для справки: За 1-е полугодие 2012 года в Беларуси родилось 54 155 детей, а умерло — 63 892 человека. За полгода естественная убыль населения составила 9 737 человек. Если в стране некому рожать и работать, то что можно сказать о будущем этой страны? И будет ли кому говорить?

ДЕМОГРАФИЧЕСКИЕ ПОКАЗАТЕЛИ РАЙОНА 2010–2012 гг.

| ПОКАЗАТЕЛИ | на 1-е полугодие 2010 г. | на 1-е полугодие 2011 г. | на 1-е полугодие 2012 г. |
|---|---|---|---|
| Численность населения в районе, человек | 28109 | 27468 | 26910 |
| Численность населения, занятого в экономике района | 12020 | 11731 | 11289 |

## 4 ЖНІЎНЯ ПРАПАНАВАНА АБ'ЯВІЦЬ МІЖНАРОДНЫМ ДНЁМ САЛІДАРНАСЦІ З ПРАВААБАРОНЦАМІ БЕЛАРУСІ




Расійскія праваабаронцы і грамадскія актывісты выступілі з ініцыятывай абвясціць 4 жніўня Міжнародным днём салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю і праваабаронцамі Беларусі.

Дата абраная невыпадкова — 4 жніўня спаўняецца роўна год з часу арышту ў Мінску віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі правоў чалавек, лідара закрытага ўладамі праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага.

Зварот ініцыятыўнай групы размешчаны на спецыяльна створаным сайце: by.soli-day.org.

# ЦІ ВЕРНЕ БНФ САБЕ ПАПУЛЯРНАСЦЬ 90-Х ГАДОЎ МІНУЛАГА СТАГОДДЗЯ

**Віктар ВОЙТ, svabodaby.net**



Рыгор Кастусёў, выхадзец з той самай гаспадарчай наменклатуры Шклоўскага раёна, што і Аляксандр Лукашэнка, абраў для сябе абсалютна супрацьлеглы палітычны шлях.

У мінулую прэзідэнцкую кампанію, да якой у грамадстве і сёння адзначаецца вельмі супярэчлівае стаўленне, Кастусёў балаціраваўся кандыдатам у прэзідэнты, дэкларуючы зусім іншыя каштоўнасці, чым яго былы знаёмы. А цяпер ён збіраецца зарэгістравацца кандыдатам у дэпутаты Нацыянальнага сходу. Наколькі гэта правільнае і дальнабачнае рашэнне? Ці выйграе ад гэтага БНФ, намеснікам старшыні якога з'яўляецца спадар Кастусёў? На што разлічвае ён сам?

На гэтыя дый іншыя пытанні Рыгор Кастусёў адказаў карэспандэнту "Тут і цяпер".

***— Навошта ідзяце на выбары, вынік якіх усім (і вам самому) загадзя вядомы?***

— Так, нам усім вядомы вынікі маючай адбыцца выбарчай кампаніі. Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, як звычайна, будуць прызначаны, але для Партыі БНФ удзел у выбарчай кампаніі — гэта магчымасць актывізаваць работу з насельніцтвам, праз вылучэнне кандыдатаў і іх удзел у кампаніі данесці да грамадзян Беларусі сваё бачанне сітуацыі, свае прапановы па вывядзенні краіны з палітычнага і эканамічнага крызісу. Удзел у бягучай парламенцкай кампаніі — гэта яшчэ і адзін з этапаў падрыхтоўкі да прэзідэнцкіх выбараў 2015 года.

***— Як вы ацэньваеце сваю рэальную папулярнасць у рэгіёне?***

— Я планую вылучацца па Шклоўскай акрузе, якая ўключае ў сябе Шклоўскі, Бялыніцкі, Круглянскі раёны, а таксама часткова Магілёўскі раён і Магілёў. Гэта ўжо не першы мой удзел у выбарах, таму маё імя добра вядома выбаршчыкам. Да таго ж мая папулярнасць узмацняецца тым, што я нарадзіўся ў Бялыніцкім раёне і адпрацаваў там на пасадах галоўнага інжынера і дырэктара саўгаса 9 гадоў. З 1991 года я пражываю і працую ў Шклове: больш за 6 гадоў адпрацаваў на пасадзе кіраўніка раённага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Пасля майго звальнення ў 2001 годзе (падкрэсліваю: па палітычных матывах) за наступныя 10 гадоў ажно тры кіраўнікі Шклоўскай ЖКГ пакінулі сваю пасаду па прычынах, звязаных са службовымі злоўжываннямі. Двое з іх былі нават асуджаны… Людзі гэта таксама ведаюць і ўлічваюць.

***— Відаць, вы чулі нямала папрокаў і прамых абвінавачванняў на адрас партыі БНФ і на свой асабісты за дзеянні напярэдадні, у час і асабліва пасля падзей Плошчы-2010. Ёсць сярод іх справядлівыя, якія можаце прыняць і на партыю, і на сябе?***

— Шмат каму не падабалася, што Партыя БНФ прымала ўдзел у прэзідэнцкай выбарчай кампаніі як самастойная палітычная сіла. Адсюль прыхаваныя і адкрытыя нападкі на нас. Але ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах 2010 года ўпершыню за апошнія 16 гадоў значна паспрыяў павышэнню папулярнасці і вядомасці нашай партыі. На гэта станоўча паўплывалі добра арганізаваная інфармацыйная кампанія і шматлікія сустрэчы кандыдата і чальцоў каманды з выбаршчыкамі ў разнастайных рэгіёнах краіны. Шкада, што мы надта позна прынялі рашэнне аб самастойным фармаце ўдзелу ў гэтай кампаніі, і запознены старт прывёў да некаторых памылак і недахопаў. Мы прааналізавалі іх на пасяджэнні сойма і не ўтойвалі іх ад нашых сяброў. Свае пралікі я таксама прааналізаваў з дапамогай блізкіх паплечнікаў, сяброў, нават родных… Скажу толькі, што сумленне маё чыстае, хаця пэўныя моманты на Плошчы і першыя допыты ў КДБ былі няпростымі. Самае цяжкае тое, што не было ніякай інфармацыі пра рэальнае развіццё падзей. Заставалася толькі арыентавацца на сваю перакананасць і веру ў паплечнікаў і сяброў. Адсюль, лічу, і памылак было няшмат, бо каманда кандыдата Партыі БНФ працавала на тых выбарах, грунтуючыся выключна на маральных каштоўнасцях. Гэтыя каштоўнасці былі захаваны і пасля выбарчай кампаніі. Дарэчы, пасля падзей на Плошчы менавіта выбарчы штаб БНФ першым актыўна далучыўся да справы салідарнасці з асуджанымі і рэпрасаванымі.

***— А ўсё ж у грамадстве ёсць адчуванне, што аўтарытэт і папулярнасць БНФ з году ў год слабее. Ясна, што гэта вымагае глыбокага аналізу. На вашу думку, чаму гэта адбываецца?***

— Аўтарытэт і папулярнасць любой палітычнай арганізацыі, у тым ліку і БНФ, здабываецца толькі праз настойлівую, разумную, цяжкую і карпатлівую працу з насельніцтвам. На жаль, як я казаў вышэй, на працягу 16 гадоў Партыя БНФ не прымала ўдзелу ў прэзідэнцкіх кампаніях як самастойная палітычная сіла. Гэта прывяло да таго, што пра БНФ пачалі забываць. Але ў апошнія тры гады адбываецца працэс павышэння аўтарытэту партыі. Тое, што на нас цяпер пачалі часцей нападаць з розных бакоў, і ёсць лепшым сведчаннем таго, што гэты працэс ідзе ў правільным кірунку.

***— Што будзеце лічыць прыстойным вынікам удзелу ў выбарчай кампаніі для сябе і для партыі?***

— Ідучы на парламенцкія выбары, мы ўсведамляем, што выбараў як такіх у Беларусі няма. Мы далучаемся да гэтай выбарчай кампаніі толькі з той мэтай, каб скарыстаць яе як легальную магчымасць для работы з насельніцтвам і данесці да грамадзян нашу пазіцыю. Вяртанне ўзроўню папулярнасці БНФ, якім ён быў на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, і будзе самым прыстойным вынікам нашага ўдзелу ў выбарчай кампаніі.

# КАКИХ ФУНКЦИЙ НЕ ХВАТАЕТ ЗАВУЧУ ЛИЦЕЯ?

Тимур НЕЗВАНОВ

***Подготовка к проведению выборов идёт полным ходом. Но провести их готовятся так же, как и в прошлые годы. То есть, с применением административного ресурса и привлечением всевозможных провластных организаций. И как всегда в первых рядах защитников интересов власти — «Белая Русь».***

Общественное объединение «Белая Русь» всегда выступало с одобрением действий президента. «БР» уже несколько лет стремится стать партией, чтобы получить новые возможности и стать главной политической силой в стране. Но глава государства не спешит с принятием такого решения. Он чисто психологически не готов хоть частично поделиться властью. Не говоря уже о том, что большой пользы от создания микро-КПСС Лукашенко пока не видит.

Может, поэтому на этих выборах члены «БР» демонстрируют особенно повышенную активность. В Климовичах ради этого руководитель районной организации «Белой Руси» Алла Антипова пошла на экстраординарный шаг. Разумеется, в местной районке она сразу подтвердила, что их позиция остаётся неизменной. Во время выборов «мы будем, прежде всего, поддерживать кандидатов в депутаты — членов «Белой Руси», а также тех, кто стоит на близких к нам конструктивных позициях». Будут собирать подписи, считать голоса, наблюдать за порядком на избирательных участках.

В этом, признаться, нет ничего нового. Но Алла Антипова, являющаяся по основному месту работы заместителем директора в Климовичском лицее, ко всему прочему озвучила удивительное заявление: «В случае регистрации в качестве кандидата в депутаты членов РОО «Белая Русь» функции их избирательных штабов будут выполнять общественные приемные объединения, в том числе и общественная приемная районной организации. Место нахождения — помещение ГПЛ № 14, кабинет заместителя директора по учебно-производственной работе».

Независимые юристы и правозащитники отрицательно восприняли это неоднозначное заявление. Стремление присвоить кабинету завуча функции избирательного штаба расценивается как политическое вмешательство в учебно-образовательный процесс: «В помещении государственного образовательного учреждения должны учиться дети, а не происходить какие-то непонятные политические игры».

Но для самих членов «БР» в этом нет ничего противоестественного. Они возмутились бы только в том случае, если бы в помещении лицея предложили открыть предвыборный штаб какого-нибудь кандидата не от власти.

# “ЛЯПЫ” КЛІМАВІЦКІХ ЧЫНОЎНІКАЎ

Іван БАРЫСАЎ

***Праваабарончы сайт spring96.org кожны дзень паведамляе шмат самай рознай інфармацыі аб парламенцкіх выбарах у Беларусі. Тут можна сустрэць факты, якія тычацца і передвыбарчых падзей у Клімавіцкім раёне. Прапануем нашым чытачам адну з апошніх публікацый.***

На сайце Клімавіцкага райвыканкама пад рубрыкай “Выбары-2012” з’явілася рашэнне № 14-18 “Аб стварэнні участкаў для галасавання па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь пятага склікання”.




Здаецца, рашэнне як рашэнне, у Клімавіцкім раёне створана 28 участкаў для галасавання. Аднак пры ўважлівым прачытанні гэтага “твору” высвятляецца, што клімавіцкія бюракраты перапісалі яго з адпаведнага рашэння 2008 года і нават заленаваліся выправіць дакумент да канца. Тэкст сёлетняга рашэння змешчаны на старонках з 1-й па 6-ю, 7-я чамусьці пустуе, а вось 8-я і 9-я сведчаць пра "плагіят": у "астанках" старога дакумента гаворыцца аб стварэнні “участкаў для галасавання… дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў чацвёртага склікання” і стаіць подпіс старшыні Клімавіцкага райвыканкама В. Грышанава. Тут варта адзначыць, што спадар Грышанаў старшынёй Клімавіцкага райвыканкама ўжо не працуе і яго няма зараз у Магілёўскай вобласці ўвогуле, бо ён узначальвае камітэт па сельскай гаспадарцы і харчаванні Мінскага аблвыканкама.

Гэтыя чынавенскія “ляпы” ў афіцыйным дакуменце яскрава сведчаць, што самі мясцовыя ўлады не лічаць выбары ў Палату прадстаўнікоў нечым сур’ёзным і вартым увагі.

На сайце spring96.org усім жадаючым прапануецца азнаёміцца з дакументам, які ўтрымлівае адпаведнае Рашэнне Клімавіцкага райвыканкама.

# КОШТЫ НАВУЧАНЬНЯ Ў НЕКАТОРЫХ ВНУ ВЫРАСЛІ Ў СЯРЭДНІМ НА 40%



ВНУ Беларусі пачалі абвяшчаць кошты навучання для студэнтаў-першакурснікаў. Па інфармацыі Радыё Свабода ў сярэднім яны выраслі на 40%.

У Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце параўнальна з мінулым годам кошт вырас на 39%. Навучанне першакурсніка будзе каштаваць 11,59 мільёна беларускіх рублёў. Ранейшы кошт — 7 млн 185 тыс. рублёў.

У Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі кошты выраслі на 40–52%. Прыкладам, навучанне на факультэце інфармацыйных тэхналогіяў і кіравання будзе каштаваць 14 млн 700 тыс. рублёў.

Інфармацыя пра падвышэнне коштаў навучання змешчана на афіцыйных сайтах ВНУ.

# НЕ ПРИВЛЕКЛИ НИ ОДНОГО ДОЛЛАРА




Александр ВЛАД

***Не всегда можно доверять государственной статистике, но другой у нас просто нет. Что ж, попробуем составить представление о реалиях жизни, пользуясь официальными цифрами и фактами.***

Согласно статистическим данным, жить в Могилёвской области хорошо, а местами так и вовсе замечательно. Возьмём самое насущное — заработную плату. Оказывается, по результатам первого полугодия Могилёвщина по уровню заработной платы опередила Витебскую, Гродненскую и Брестскую области. В июне средняя зарплата жителей Могилёвской области составила 3 млн. 450 тыс. руб. (около $414 в эквиваленте). Разве не здорово?

Но эта средняя зарплата вызывает в памяти один старый анекдот. На заводе в обеденный перерыв рабочий ест булочку, а директор — курицу. А в среднем у каждого выходит полбулки и полкурицы. Смех смехом, но точно так получается и в нашем случае. В среднем по области насчитали 3 млн. 450 тыс., а применительно к конкретным регионам картина резко меняется. Здесь встречаются организации со средним заработком менее $200 долларов. Есть такая и в Климовичском районе.

Глава области Пётр Рудник настойчиво требует «выйти как минимум на $500 средней заработной платы в декабре 2012 года». До декабря осталось несколько месяцев, но губернатор, похоже, живёт совсем по другому календарю. К тому же мы хорошо помним его прошлогоднее обещание. Тогда, в начале 2011 года, Пётр Рудник категорически заявил, что в декабре 2011 года средний заработок жителей области должен равняться $600. За язык его, как говорится, никто не тянул и не вынуждал утверждать следующее: «И я могу твёрдо заверить депутатов областного Совета, что облисполком не просто стремится к достижению этой цели, но и чётко представляет, как и за счёт чего воплотить задуманное в жизнь». Как известно, 600 долларов «воплотить» не вышло, сейчас пробуют вытянуть хотя бы на 500-долларовую планку.

Ясно, что если бы не предстоящие осенью парламентские выборы, власти не замахивались бы и на такое. Они лучше нас знают состояние экономики, возможности которой практически уже исчерпаны. Зарубежные инвесторы, вопреки уверениям чиновников и государственной пропаганде, просто опасаются вкладывать сюда деньги. Привлечение иностранных инвестиций в Могилёвской области из года в год оставляет желать лучшего. В нынешнем году ряд районов – Климовичи, Белыничи, Глуск, Дрибин, Хотимск - вообще не привлекли ни одного доллара иностранных инвестиций. И это наилучшим образом опровергает мифы об эффективности белорусской экономической модели.

Например, в Климовичах уже длительное время пробуют реализовать проект по производству газосиликатных блоков. Напомним, что о предполагаемом строительстве в Климовичском районе силикатного завода госСМИ стали заявлять ещё несколько лет назад. Так в декабре 2007 года председатель райисполкома Виталий Гришанов сообщил в интервью: «В рамках программы развития малых городов в Климовичах начнётся строительство завода по производству газосиликатных блоков. Количество работающих на предприятии составит 200-250 человек». Но ни завода, ни рабочих мест климовчане не получили. Все эти годы райисполком безуспешно ищет инвесторов, предлагая им вложить 10 миллионов долларов в реализацию проекта. Но если они не захотели сделать это пять лет назад, то тем более не пожелают сделать это сегодня. После выборов 2010 года деловая и политическая репутация страны безнадёжно испорчена. Вкладывать не то что миллионы, но даже один доллар, становится для инвесторов чересчур рискованным делом.

## ЗАНИМАТЕЛЬНАЯ АРИФМЕТИКА

Вадим ЛИВНЕВ, Салідарнасць

Уходящая неделя подарила чудную игру цифр. В первом полугодии доходы бюджета Беларуси от приватизации составили около 1 миллиона долларов, а первый заместитель председателя Мингорисполкома Игорь Васильев вымогал у иностранного инвестора взятку в размере 500 тысяч «баксов».

Конечно, эти две темы напрямую друг с другом не связаны. Но соотношение всё равно впечатляет: по данным КГБ, госчиновник требовал «на лапу» сумму, равную половине поступлений от приватизации в масштабах всей страны!

А хотите еще немного занимательной арифметики? Согласно обязательствам перед Антикризисным фондом ЕврАзЭС Беларусь в 2012 году должна обеспечить поступления от приватизации на 2,5 миллиарда долларов. По итогам первого полугодия, план выполнен на 0,04%.

И, на закуску: 1 год и 9 месяцев — столько провел на посту первого заместителя председателя Мингорисполкома Игорь Васильев. До этого он работал директором минского комбината силикатных изделий, то есть чиновником не являлся. Вот и возникает вопрос: то ли наши госструктуры портят и развращают людей в кратчайшие сроки, то ли на вторую должность в столице изначально брали маститого взяточника?

Да, кстати: согласие на назначение Игоря Васильева в Мингорисполком давал видный борец с коррупцией Александр Лукашенко. Может, он теперь сам себе строгий выговор объявит за очередной провал в кадровой политике?..

# ВЕЛОСИПЕД НЕ АВТОМОБИЛЬ, НО ПАРКОВКА ЕМУ НЕОБХОДИМА

Елена ПОЛЯКОВА

***Заметила, что в последнее время всё больше говорят о важности широкого использования населением велосипедов. То ли это забота о здоровье граждан и экологии, то ли банальное желание снизить расходы на бензин, но факт остаётся фактом. Велосипедная тема становится важной и значимой для нашего общества.***

Лидирует в этом вопросе Минск, что вполне понятно и закономерно. О необходимости создать по всей столице сеть велодорожек там заявляют постоянно. Решением Мингорисполкома утверждён план мероприятий по оздоровлению горожан на открытых площадках — велодорожках, в парках и др. Исходя из этого, планируется активно развивать среди минчан велодвижение. И городские власти, и общественные организации уделяют этому большое внимание. Ответственным за выполнение поручено ежегодно строить 10 км велодорожек в каждом районе Минска, другими словами — каждый год 100 км во всём городе. «Минское велосипедное общество» поддерживает эти начинания и дополнительно предлагает организовать сопутствующую инфраструктуру велодорожек — велопарковки, пункты общепита, места отдыха и т. д.

Пока же в столице построена велодорожка протяжённостью всего 26 км, что явно недостаточно. А ведь по приблизительным расчётам в Минске владельцами велосипедов являются 300 тыс. человек. Что же тогда говорить о других городах? Например, в Могилёве велодорожки есть, но их всего три. Одна, 3-километровая, — по Гомельскому шоссе, от кольца у мясокомбината до «вейнянской» кольцевой. Другая (1,5 км) — по улице Челюскинцев. Третья (1,6 км) — в Печерском лесопарке. Маловато, к тому же специалисты ни одну из них не считают полноценной и соответствующей нормам и стандартам велодвижения.

Хорошие велодорожки должны быть не меньше 2,5 метра в ширину и протяженностью километров в 10. В нынешних условиях соответствовать требуемым нормам весьма затратно. В сегодняшних ценах стоимость одного погонного метра велодорожки, с учётом всей необходимой инфраструктуры, доходит до 1 миллиона рублей. Это чересчур накладно для нашего государства, которое не в состоянии выполнять и более важные социальные обязательства.

Но движение за развитие велодорожек и велопарковок всё-таки ширится. Вот лишь несколько примеров. Председатель Гомельского горисполкома Виктор Пилипец поручил администрациям районов города проработать вопрос об оборудовании объектов социальной сферы велопарковками. Произошло это после его встречи с активистами гражданской кампании «Наш дом». Министр образования Сергей Маскевич считает необходимым, чтобы учреждения высшего образования осуществляли оборудование парковок для велосипедов возле входов в учебные корпуса и общежития. В апреле жители Горок подали коллективное обращение (более 500 подписей) с просьбой построить велодорожки в связи с реконструкцией в городе дорожной сети к «Дажынкам».

Хотелось бы, чтобы в перечислении подобных примеров прозвучали и факты из Климовичского района. Но у нас, к сожалению, ситуация типична для небольших районных городов. Проблема «где ездить?» дополняется вопросом «где парковаться?». Даже в центре города только возле двух магазинов можно обнаружить устройства для стоянки велосипедов. Поэтому про специализированные велопарковки и тем более велодорожки можно не говорить. Но, с другой стороны, государство замахивается на строительство АЭС и запускает космический спутник, а вот решить «велосипедную проблему», да и не только её, не считает нужным. Нелогично, не правда ли?

# ДЗЕ БОЛЕЙ ЖЫВУЦЬ ДАЎЖЭЙ

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ, Радыё Свабода

***Паводле Белстату, 574 беларусы жывуць ужо больш як 100 гадоў. Найбольш доўгажыхароў у Гарадзенскай вобласці, за ёй ідуць Берасцейская, Мінская, Віцебская, Гомельская, Магілёўская. Найніжэйшы паказнік у Мінску, дзе на 2 мільёны жыхароў толькі 49 тых, каму болей за стагоддзе.***

***А як справы з доўгажыхарствам у суседзяў Беларусі?***

У Расіі, паводле дадзеных інстытуту геранталогіі, жыве 6800 чалавек, якім болей за 100 гадоў. Пры насельніцтве ў 140 мільёнаў паводле паказніка на 100 тысяч жыхароў Расія нязначна саступае Беларусі.

Ніжэйшы ўзровень доўгажыхарства і ва Ўкраіне — 1700 з гакам доўгажыхароў, пры тым што насельніцтва ўпяцёра больш, чым у Беларусі.

Прыкладна аднолькавы паказнік доўгажыхарства ў Беларусі з Польшчай, дзе людзей, старэйшых за 100 гадоў, крыху болей за 2 тысячы пры насельніцтве ў 4 разы большым, чым у Беларусі.

А вось у параўнанні з Літвой Беларусь прайграе: там жыве болей за 300 грамадзянаў старэйшага за 100 гадоў веку, пры тым што насельніцтва там меней ў тры разы.



# ДОМ ПАЎЛАВА

**Ясь ГАСПАДАР**

***Месяц таму ў Чэрыкаве разбурылі найстарэйшы гарадскі будынак. Дом быў пабудаваны напрыканцы васямнаццатага стагоддзя — у 1789 годзе паводле праекта архітэктара Вісарыёна Паўлава.***

Гэта быў найдаўнейшы будынак райцэнтру. У савецкія часы тут знаходзіўся райвыканкам, а потым раённы суд. Дом з'яўляўся часткай унікальнага ландшафту, у якім захавалася старадаўняя планіроўка вуліц мястэчка. Разбурыўшы дом, улады парушылі гэтую ўнікальнасць, кажуць мясцовыя краязнаўцы.



svaboda.org (RFE/RL)

Асабліва паказальна, што ўсё адбылося без грамадскага абмеркавання. Вядомы чэрыкаўскі краязнаўца і фатограф Сямён Панізоўцаў паведаміў Радыё Свабода свой погляд на падзею: «Відаць, былі патрэбныя грошы на яго ўтрыманне, а тут, як кажуць, каб праблемаў не было — знесці, і ўсё. Я адно ведаю, што дом гэты быў яшчэ моцны. І вытрымаў бы яшчэ сотні гадоў. У ім сцены метровыя. Там толькі столь была пашкоджаная. Не даглядалі — вада працякала з даху. Мы рыхтаваліся збіраць подпісы за захаванне гэтага дома, але пакуль апамяталіся, яго ўжо пачалі бурыць».

Раённыя ўлады лічаць, што дом быў у аварыйным стане і пад рэканструкцыю не падпадаў. Некалькі апошніх гадоў ён пуставаў. Зараз плануецца, што на месцы былога будынка будзе газон з кветнікам. Здаецца, усё зроблена як трэба, але ёсць і іншыя меркаванні. Чэрыкаўскія рупліўцы захавання гістарычнай спадчыны кажуць, што людзі паставіліся да зносу вельмі негатыўна. Усё ж гэта быў самы стары будынак у Чэрыкаве. Тым больш, што яго пабудавалі паводле праекту знакамітага архітэктара і скульптара Паўлава.

Вісарыён Паўлаў быў вельмі таленавітым чалавекам. Маючы ўсяго 23 гады, ён быў прызначаны на пасаду Магілёўскага губернскага архітэктара. Менавіта яму належыла ажыццявіць перапланіроўку і перабудову гарадоў усходняй Беларусі. Да прыкладу, такім чынам абнаўляліся Клімавічы з Крычавам. Самы вядомы архітэктурны твор Паўлава — гэта палац губернатара ў Віцебску, што захаваўся да нашых дзён. Іншы будынак — вялізны Іосіфаўскі сабор у Магілёве — у савецкі перыяд зруйнавалі камуністы. І вось ужо ў наш час такі ж лёс напаткаў дом, пабудаваны ў Чэрыкаве. Сапраўды, гісторыя не вучыць тых, хто не жадае ў яе вучыцца.

# ЗАМОЛКШИЙ ТИР

**Данила МЕСТИЧ**

После того, как шведский самолёт тайно пересёк белорусскую границу и успешно вернулся обратно, рассказы о нашей обороноспособности перешли в разряд фольклора. В принципе, об этом свидетельствуют и другие многочисленные примеры. Хочется указать на один из них. Во времена совсем другой армии, ещё советской, в Климовичском районе действовал стрелковый тир. Он был организован при районном техникуме, чтобы заниматься с будущими призывниками. В ходе уроков военной подготовки проводились учебные стрельбы, а рядом на плацу — строевые занятия. Тир пользовался заслуженной известностью. Помимо студентов техникума здесь оттачивали снайперские навыки климовичские милиционеры. В такие дни ребятня со всего города собирала в тире, пахнущие свежим порохом пистолетные гильзы от «Макарова» и «ТТ».

Но в эпоху правления нынешнего главнокомандующего вооружёнными силами РБ тир перестал функционировать и быстро пришёл в запустение. Кирпичные стены крошатся, а внутреннее пространство давно заросло деревьями и кустарником. В конце концов, в этом году тиру нашли новое применение. Говорят, что строение выкуплено предпринимателем, который собирается открыть здесь пилораму. Это, конечно, лучше, чем дождаться полного развала здания. Но, с другой стороны, обидно, что шведы теперь совсем перестанут нас бояться.

# В НАЗВАНИЯХ И ГОЛОВАХ

**Сергей АРЖАНЦЕВ**

***Популярный интернет-портал TUT.BY решил уточнить, действительно ли в каждом райцентре Беларуси есть улицы Советская и Ленина? Расследование портала показало, что, несмотря на исчезновение СССР, советскость и ленинизм с улиц и переулков никуда не делись.***

TUT.BY обработал информацию по 134 главным населённым пунктам страны. Были выделены самые популярные названия улиц советской эпохи. Выяснилось, что в отдельных случаях эпоха оставила настоящий винегрет наименований. Так, в Гомеле сегодня есть улица Ленина и улица имени Ильича, таким образом, в его честь названы сразу две улицы. В Жодино имеются проспект Ленина и улица Ленинская, причём они ещё и пересекаются. В Чечерске, помимо улицы Ленина, есть также и улица Ульянова. В Бресте — улицы Октябрьская и Октябрьской Революции.

Всего же по всем учитываемым населённым пунктам Советская получила 119 упоминаний, Ленина/Ленинская —112, Карла Маркса — 59, Коммунистическая — 43. В Климовичах и в соседнем Кричеве этот перечень присутствует в полном наборе.

# ФІЗІК-ЯДЗЕРШЧЫК АЖАРОЎСКІ: У АСТРАЎЦЫ — ПАКАЗУХА. АЭС НЕ ПАБУДУЮЦЬ

***Расійскі фізік-ядзершчык Андрэй Ажароўскі сумняецца ў тым, што беларуская АЭС будзе пабудаваная і лічыць, што ва ўлады проста няма разумных аргументаў на карысць гэтага праекту. У ліпені, калі Ажароўскі прыехаў у Беларусь, ён быў прымусова дэпартаваны назад у Расію. Апроч гэтага, яму забаранілі ўезд на тэрыторыю РБ на працягу 10 гадоў.***

***Радыё Свабода: Як па-вашаму, навошта Беларусі АЭС?***

Андрэй Ажароўскі: Гэта добрае пытанне. Будаўніцтва АЭС у Беларусі адпавядае інтарэсам толькі дзяржаўнай карпарацыі Росатам. Беларусі АЭС не трэба ані з эканамічнага, ані з палітычнага пункту гледжання. Каштуе яна каля 10 млрд даляраў. Гэта значыць, кожны беларус — і дзеці і старыя — вінаватыя Росатаму больш за 1000 даляраў. Гэта шалёна дарагая энергетыка. Яна нават не «ўлазіць» у энергетычную сістэму краіны: больш за трэцяя частка гэтай энергіі будзе з адной крыніцы. А рэактары, як мы ведаем, выключаюцца аўтаматыкай, самі па сабе. Будуць адбывацца катастрафічныя з'явы ў эканоміцы краіны, калі трэцяя частка энергіі будзе раптоўна адключацца.

***Радыё Свабода: Але ж улады настойваюць, што АЭС зробіць Беларусь энергетычна незалежнай, найперш ад Расіі...***

Андрэй Ажароўскі: Якая ж гэта незалежнасць, калі ўранавае паліва будзе пастаўляцца з Расіі? Гэта мяняць шыла на мыла. Газпромаўскае шыла на «атамнае» мыла. Навошта гэта? Росатам для Беларусі не падарунак. Гэта нейкі траянскі конь. Энергетычнай незалежнасці ён не дае. Да таго ж пабудова АЭС толькі падвышае залежнасць Беларусі ад замежных тэхналогіяў. Беларусь жа сама не можа абслугоўваць станцыю, рамантаваць яе. Яна будзе мёртва прывязаная да Расіі, бо ніхто не зможа пастаўляць, напрыклад, кіруючыя стрыжні, а не толькі паліва. Ніхто іншы не зможа замяніць парагенератар. А на расійскіх АЭС парагенератары часта цякуць і патрабуюць замены праз 5-10 гадоў пасля пачатку эксплуатацыі. Там шмат дэталяў, якія змогуць не спрацаваць.

І памятайце, што гэта эксперыментальны праект. Нідзе ў свеце такая АЭС па праекце АЭС-2006 яшчэ не пабудаваная. У Расіі ідзе шэсць такіх будоўляў. Я нядаўна быў на Варонежскай АЭС. Яна, магчыма, будзе дабудаваная праз два гады. І толькі тады стане зразумела, ці будзе яна ўвогуле працаваць. Досвед паказвае, што нават пабудаваныя станцыі яшчэ некалькі гадоў патрабуюць «даводкі». АЭС могуць пабудаваць, а яна апынецца непрацаздольнай.

***Радыё Свабода: Ці можна абыйсціся без АЭС?***

Андрэй Ажароўскі: Яшчэ ў 2006 годзе Аляксандр Лукашэнка абвесціў, што АЭС — гэта безальтэрнатыўны варыянт. Але ёсць шмат альтэрнатываў. Калі б улада была больш разумная, то яна б разглядала магчымасць долі ў літоўскім тэрмінале па прыёме звадкаванага газу ў Клайпедзе. Гэты звадкаваны газ зараз таннейшы за газпраўмаўскі. Беларусь цалкам магла б частку газу браць з сусветнага рынку і вырашыць свае праблемы, калі яны сапраўды хочуць дыверсіфікаваць пастаўшчыка. Ёсць альтэрнатывы, пра гэта трэба думаць. Нават прагноз МАГАТЭ сведчыць пра тое, што доля атамнай энергіі ў свеце змяншаецца. Цяпер яна складае каля 7%, а да 2050 году будзе меней за 3%.

***Радыё Свабода: Які лёс чакае беларускую АЭС?***

Андрэй Ажароўскі: Ёсць важкія нюансы, якія дазваляюць мне меркаваць, што станцыя не будзе пабудаваная. Я месяц таму быў там, ніхто мяне не затрымліваў, хадзіў па пляцоўцы, фатаграфаваў. На вышэйшым узроўні Сямашка заявіў, што мы пачалі капаць катлаван, але архітэктурны



праект станцыі будзе гатовы толькі праз год — увесну 2013 году.

Вы можаце сабе ўявіць нават пабудову дома, калі праекта няма, а катлаван ужо капаюць?! Мне здаецца, што ўсё, што адбываецца ў Астраўцы — гэта паказуха. Ніхто не возьмецца за пабудову, калі няма прывязкі да мясцовасці. Што такое архітэктурны праект? Гэта дзе стаіць рэактарны будынак, дзе турбінны, дзе канал-вадавод, бо станцыя ж будзе «піць» ваду з Віліі... Гэта мусіць быць усё разлічана з улікам усіх умоваў. Проста так пачаць рыць катлаван? Гэта вельмі дзіўна.

Мы ведаем шмат праектаў, калі кантракты на будаўніцтва АЭС, у тым ліку і з Росатамам, не выконваліся. Апошні гучны прыклад — гэта баўгарская АЭС «Белене», якая была ў высокай ступені гатоўнасці — нават гатовы корпус рэактара. Але баўгарскі прэм'ер-міністр знайшоў у сабе мужнасць увесну сказаць, што гэта надта дорага для Баўгарыі, і адмовіцца цалкам ад праекту. Росатам цяпер судзіцца з Баўгарыяй, каб яны забралі гэты рэактар і заплацілі неўстойку.

Іншая прычына: якасць будаўніцтва расійскіх АЭС — жахлівая. Год таму на будаўніцтве Ленінградскай АЭС, якая будуецца па такім жа праекце АЭС-2006, адбыўся абвал 1200 тонн металаканструкцый. І гэта толькі выпадкова людзі не загінулі, бо быў абедзенны перапынак. Абваліліся канструкцыі таго самага «ахоўнага калпаку», які, як пераконваюць атамшчыкі, павінен вытрымаць падзенне самалёта. А ён абваліўся на стадыі будаўніцтва пад уласным цяжарам.

Такіх прыкладаў масса. І ў Беларусі такое можа быць. Быў такі шалёны праект пабудовы Мінскай станцыі цеплазабеспячэння. У пяці кіламетрах ад жылой забудовы, каб не толькі электраэнергію, але і атамнае цяпло гнаць па трубах. Пасля Чарнобылю ўсё гэта было закрытае. Па Расіі такая ж Ніжагародская станцыя і Варонежская была закрытыя.

Цяпер улады Расіі і Беларусі робяць выгляд, што Фукусімы не было і Чарнобыль трэба забыць. Я думаю, яны не маюць рацыі. Калі ў бліжэйшы час адбудзецца яшчэ адна аварыя на адным з 400 рэактараў, якія ў свеце дзейнічаюць, то думаю, яшчэ больш праектаў будзе закрыта, можа нават і беларускі.



# ВЫГОДНЫЙ ЗАЛОГ

В один городок (может, даже белорусский) приехал богатый турист. Оставив хозяину гостиницы в залог 100 долларов, он поднялся посмотреть комнаты отеля. Хозяин гостиницы, не медля ни минуты, берёт купюру и бежит с ней к мяснику отдать долг. Мясник с купюрой бежит к фермеру и отдаёт ему долг за говядину. Фермер отдаёт долг владельцу автомастерской. Владелец мастерской направляется в местный магазин и отдаёт долг за продукты. Хозяин магазина бегом к местной девочке по сопровождению, которая из-за кризиса "обслуживала" его в долг... Девочка сразу бежит к хозяину гостиницы и отдаёт ему долг за комнаты, которые она снимала для клиентов. В этот момент обратно спускается турист и говоря, что не нашёл подходящей комнаты, забирает залог и уезжает.

Никто ничего не получил, но весь городок теперь живёт без долгов.

## Бенджамин Франклин — мыслитель XVIII века. Афоризмы.

***Кто покупает лишнее, в конце концов, продаёт необходимое.***
***Держи глаза пошире до свадьбы и зажмуривай после.***
***Чем лучше врач, тем больше он знает бесполезных лекарств.***
***Если люди настолько плохи, обладая религией, кем бы они были без неё?***
***Человек живет не тем, что съедает, а тем, что переваривает. Это одинаково справедливо для ума и для тела.***

# ІНТЭРНЭТ-БІБЛІЯТЭКА KAMUNIKAT.ORG: БОЛЬШ ЗА 10000 БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯЎ

***Праект “Беларуская інтэрнэт бібліятэка Kamunikat.org”, які рэалізуе Беларускае гістарычнае таварыства, на працягу некалькіх гадоў мае фінансавую падтрымку Міністэрства замежных спраў Польшчы ў рамках праграмы “Польская дапамога".***

Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка камунікат

Партал існуе з 2000 году і арыентаваны на збор незалежных беларускіх выданняў, якія выходзяць невялічкім тыражом. Ёсць і гістарычныя выданні: кнігі, газеты і часопісы, выдадзеныя ў Беларусі і ў эміграцыі.

Цікавай часткай бібліятэкі з’яўляюцца асабістыя старонкі беларускіх аўтараў, чые кнігі знаходзяцца ў бібліятэцы (http://kamunikat.org/bielaruskija_autary.html) і разьдзел "Што новага" (http://kamunikat.org/naviny.html), які дае магчымасьць знаёміцца з навінкамі беларускага выдавецкага рынку.

На сайце www.kamunikat.org можна знайсці кнігі, аўдыё кнігі, газеты, аўдыё і відэа. Усяго размешчана больш за 10000 розных беларускіх выданняў. А ў раздзеле “Перыёдыка” знаходзяцца ўсе нумары “Клімавіцкай Інфа-Панарамы” за 2012 год.

# ШТО НІ ГАРАДОК, ТО ГАВАРОК, ШТО НІ СЯЛЬЦО, ТО СЛАЎЦО!

Аляксандр Казіміравіч Сержпутоўскі (1864-1940) — вядомы этнограф і фальклярыст, праводзіў вялікую даследчую працу па вывучэнню культурнай спадчыны беларусаў. Шмат друкаваўся, выдаў некалькі зборнікаў казак і апавяданняў. У наш час у адным з архіваў быў знойдзены рукапіс Сержпутоўскага, падрыхтаваны ім у 1912 г.:”Беларускія прыказкі і прымаўкі, запісаныя ў Мазырскім павеце”. І сёння, калі прайшло столькі часу пасля 1912 года, прыказкі і прымаўкі нашых продкаў не згубілі сваёй вартасці і будуць цікавымі для сучасных жыхароў Беларусі.

***Авечку стрыгуць, а баран дрыжыць.***
***Даганяючы не нацалуешся.***
***Дзе чорт бессілен, туды бабу пашле.***
***Дзіця не заплача — маці не здагадаецца.***
***Добрага пракаўтнуць, а ліхога праплююць***
***Жаніўся — тры анучы і не жаніўся — тры анучы.***
***За дзякуй сыты не будзеш.***
***Лепш абышто, як ніщто.***
***Не дай, Бог, свінні рог, а мужыку панства.***
***Уступі дурню — Бог веку прыбавіць.***
***Смелы з калом да жабы.***
***Работа хлеб салодзіць.***
***Шчодры перадасць — яму больш Бог дасць.***

КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

*Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь*
*Адказны за выпуск: Аржанцаў Сяргей Юр’евіч*
*Адрас: Клімавічы, вул. Леніна, д. 27а, кв.15.*
*Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў*
*Распаўсюджваецца бясплатна*